* * *

Мне прызначана жыць на мяжы,
быць палітрай шматлікіх абліччаў,
ткаць са слоў габелен таямнічы
і з пачуццяў ствараць вітражы.
На чарговым сваім віражы
я з'яўлюся ў прасторы касмічнай.
Калі Вечнасць вандроўніка кліча,
дык слядоў не змываюць дажджы.

**«Першацвет»**
**1996**

# КААРДЫНАТЫ ЛАБІРЫНТА

Некалі адраджэнскі мастак напісаў аўтапартрэт, смела выявіўшы сябе Ісусам Хрыстом... А беларуская дзеўчына ў вершы «Аўтапартрэт» атаясамілася з ідэальнай істотай, своеасаблівым сімвалам адвечнай жаноцкасці, складзеным сіламі і дабра, і зла...

Кожны раз, калі гартаеш старонкі рукапісу маладога аўтара, мімаволі ловіш сябе на думцы, што не столькі цікавяць самі вершы, колькі ўзнікае жаданне адшукаць сярод радкоў, вобразаў, словаў тыя кропкі, ад якіх можа пачацца крышталізацыя паэтыкі. Гэта значыць — крышталізацыя, узнікненне той сістэмы свету, якая адрозніць ад соцень тысяч вершапісцаў менавіта гэтага паэта.

Вось яны, крышталікі: «Рэчаіснае мора...», «Растапіліся хмары, як мяккі алей...», «Жыццёвы глей...», «Пярэстай творчасці матыў...»

А потым знаходзяцца рухі, блікі, што, нібыта промні ад фараў выпадковага аўто, асвятлілі начную цішу.

*Апусціўся цёплы вечар*
*кошкай на калені...*

Але ў гэткай утульнасці хутка

*У попел ператворыцца папера,*
*сусвет надзей пакрыецца смугой,*
*а кволая скалечаная вера*
*загіне пад бязлітаснай тугой.*

У падобным краявідзе душа Ірыны Хадарэнка імкнецца адшукаць сябе. Паэтка ўглядаецца ў аблічча мадонны — «багіні і служкі», прагне зразумець «фатальную жанчыну» Мілэдзі і ўрэшце стварыць люстэрка з вострых асколкаў, падораных Афеліяй, Мінервай, Неферціці, Сібілай, Музай, Чорнаю Паненкай...

Так і хочацца словамі пушкінскай гераіні запытацца: «Свет мой, зеркальце, скажи...»

Душа паэтэсы кіруецца ў доўгі шлях, бо стварыць гармонію, сабраць выкшталцоны вобраз з мноства промнікаў, існых і выпадковых, магчыма адно толькі з цягам часу, са спасціжэннем вопыту.

І таму спадзяюся, што блуканне промня па люстэркавым лабірынце будзе плённым.

*Галіна БУЛЫКА*

* * *

Мабыць, варта было
са сцяжыны мне збочыць,
безразважна ў трох соснах душой заблудзіць
і юнацтва святло
хмарай смутку азмрочыць,
каб у прыцемку гэтым свой лёс нарадзіць…

* * *

Я — актрыса ў тэатры абсурду,
у мяне недарэчныя ролі.
Я выконваць заўсёды іх буду,
незалежна ад думак і волі.
Тут пануюць нямыя законы
і вышэйшая сіла ўладарыць.
З нараджэння да самага скону
аб свабодзе не варта мне марыць.

* * *

*Творчым людзям усіх часоў і народаў прысвячаецца*

Пакласці жыццё на алтар
і кінуць Сусвету пальчатку,
узвесці палац з кволых мар,
сціраючы лёсу пячатку,
душу распасцерці паміж
Зямлёй і касмічнай прасторай,
без скаргаў пранесці свой крыж,
узняцца над бруднай разорай,
усмешку скрозь боль падарыць,
пакуты прыдбаць ад развагі,
бясконца шукаць і тварыць —
ці ж ГЭТА не варта павагі?!.

* * *

*В. МАНАЕВУ*

Акцёр на сцэну выйшаў зноў,
і з вуснаў вылецела слова...
Пакуты, радасць і любоў
ён мусіць перажыць нанова.
Сардэчных струн і смех, і плач
імкнецца хваляй неадольнай
у залу, дзе сядзіць Глядач,
чый уладарны позірк здольны
душу акцёра працінаць,
каб мог ён з кожнай кропляй поту
шчэ больш любіць і... праклінаць
сваю вар'яцкую работу.

## СУМНАЕ СВЯТА

І за вокнамі дождж, і настрой сапсаваны,
і рабіць трэба тое, што так не люблю.
І жыццё — як асфальт чорны, утрамбаваны.
І міжвольна я гэтую рыфму лаўлю.
Нібы вязень, сяджу адзінока ў кватэры.
Растапіліся хмары, як мяккі алей.
У душы — безнадзейна, маркотна і шэра,
і не хочацца думаць, што будзе далей.
...А, дарэчы, сягоння мае імяніны.
Я й забыла пра гэта, здаецца, зусім.
І сумую, хаця весяліцца павінна б,
бо ляжыць цяжкі камень на сэрцы маім.

* * *

Нахапаўшыся нігілізму,
жыць зусім мне не стала лягчэй.

Той ланцуг, што мне думкі сціснуў,
я імкнуся парваць хутчэй.
Па цнатлівасці справіўшы трызну,
пад уплывам вар'яцкіх начэй —
я гляджу на людзей скрозь прызму
дзікім позіркам сумных вачэй.

## АКРАВЕРШ

Ісці за ісцінай занадта небяспечна:
Сарвацца ў бездань можна незнарок.
Цаной пакут ствараецца прарок,
І шлях ягоны скіраваны ў вечнасць.
На жаль, магчыма доўга так ісці,
А ісціну да скону не знайсці...

## CREDO

*Segui ii tuo corso, a lascia*
*dir Iв genti.*[1]
*ДАНТЭ*

Незалежнай асобаю стаць
і застацца ёй — цяжкая справа.
Вы мой шлях асудзілі, відаць?
Толькі хто даў вам гэткае права?..

Не хачу я пісаць на заказ,
улагоджваць не буду нікога.
Хай праслаўяцца іншыя ўраз,
а ў мяне — не такая дарога.

---

[1] Ідзі сваей дарогай, і няхай людзі кажуць, што хочуць (італ.).

* * *

Гэта — я і быццам бы не я.
Так, відаць, жыццё мяне змяняе.
То — як птушка, то — нібы змяя,
часам добрая, а часам злая.

У люстэрка доўга пагляджу:
гэта што за дзеўчына такая?
І між тым сама сабе скажу:
«Стала я цяпер зусім не тая».

Не, не тая, што была раней:
сціплая, наіўная дзяўчына.
Я ўцягнулася ў жыццёвы глей,
пачала шукаць быцця прычыны.

Нейкі сум прагляне з-пад павек...
Думаецца з гэтакай нагоды:
так вось і стапее чапавек
па закону матухны-прыроды.

* * *

Не трэба аб мінулым сумаваць.
Яно да нас не вернецца ніколі.
І нам ужо туды не трапіць болей,
але яго нам нельга забываць.

Шкада, што зноў жыццё нам не пачаць,
ды ў памяці ў мінулае ёсць сцежка.
На вуснах лёгкая мільгае ўсмешка,
як пачынаеш штосьці ўспамінаць.

Нам застаецца лепшага чакаць,
прымаць жыцця салодкую атруту

і праз шматлікія прайсці пакуты,
каб толькі жыць на свеце, не ўміраць.

* * *

З упартай сілай лес імкнецца
зрабіць мяне абмежаванай
і да ўсяго прыстасаванай.
Ці гэта толькі мне здаецца?

Усё жыццё мне давядзецца
прытрымлівацца нейкіх рамак
і думак выбіраць напрамак.
Ці гэта толькі мне здаецца?

Куды ад роспачы мне дзецца?
Трывожны смутак нарастае,
як ланцугом, мяне сціскае,
Ці гэта толькі мне здаецца?

Пакуль жыву і сэрца б'ецца —
не супакоіцца свядомасць.
Я ціха крочу ў невядомасць.
Ці гэта толькі мне здаецца?

## SUB SPECIE AETERNITATIS[2]

Перад усімі паўстаюць пытанні:
дзе ўрэшце можна шчасце напаткаць?
Яно ў багацці, славе ці ў каханні?
Ці варта ўвогуле яго шукаць?

---

[2] Пад знакам вечнасці *(лац.)*.

Дзе сэнс схаваны і якая мэта
павінна быць у кожнага ў жыцці?
Не вырашылі людзі шчэ дагэтуль,
хоць і пайшлі дапёка ў развіцці.

## У МАЙСТЭРНІ МАСТАКА

*Ул. БАСАЛЫГУ*

Заўжды павінна месца быць,
дзе можна ціха зачыніцца
і мітусні людской пазбыцца,
каб нешта новае стварыць.

Сяджу ў майстэрні мастака...
Тут хутка вобразы ўзнікаюць,
былыя думкі ажываюць —
жыццё вяртае ім рука.

Пярэстай творчасці матыў
пакладзены на ліст паперы.
А нам бывае цяжка верыць,
што гэта чалавек зрабіў.

* * *

*У родным краю ёсць крыніца*
*Жывой вады.*
*Там толькі я змагу пазбыцца*
*Сваей нуды.*
*М. БАГДАНОВІЧ*

Душа мая — вандроўніца,
што, прагнучы напіцца,
шукае і не стоміцца
чароўную крыніцу.

Хутчэй знайсці яе, хутчэй!

Яна цячэ, бруіцца
далека ад чужых вачэй,
як быццам таямніца.

Я сцежку да крыніцы той
шукаць упарта буду.
Там толькі я знайду спакой
і смутак свой забуду.

* * *

Бурштынавы бераг… Цябе ўспамінаю
і мушу вярнуцца туды,
дзе хтосьці нябачнай рукой разбівае
струмені імклівай вады,
дзе неба аліваецца з морам салёным
і ў п'яным экстазе дрыжыць,
дзе вецер хаподны з імпэтам шалёным
бясконца кудысьці бяжыць.
Ды ён, гэты вецер, — гарэза свавольны,
што вусны мае цалаваў
зусім без дазволу і словы міжвольна,
нібы палюбоўнік, шаптаў.
А сонца з нябёс хітравата міргала,
і можна заўважыць было,
як сінія хвалі яно казытала
сваім залацістым святлом.
Я ўсё ўспамінаю, і сэрца імкнецца
туды, дзе ласкавы прыбой.
Бурштынавы бераг… Я мару сустрэцца
яшчэ не аднойчы з табой.

## CAPRICCIO

Фіялетавая птушка —
на атрутна-жоўтым фоне…
«Мне б за ёй узняцца ў неба!» —
абуджаецца капрыз.
Восень для мяне іграе
рытм-энд-блюз на саксафоне,
дрэвы моўчкі дэманструюць
бессаромны свой стрыптыз.
Хмель бяздумны і салодкі
мне свядомасць запаўняе.
Сонца промні рассыпаў
па спакуслівай зямлі.
Шэраг мрояў і памкненняў
струны сэрца закранае.
Лісце кружыцца ў паветры,
як на лузе матылі.
У душы трапечуць мары
без журбы і без турботы,
восеньскі настрой паволі
пераходзіць у экстаз.
Віннаю ракой ліецца
мяккі водар пазалоты.
Ачмурэла і шалёна
навакол пануе джаз…

## ФАНТАЗІЯ

Пакідаючы сонечны востраў,
я ўзнімуся высока над морам
і пабачу пярэстасць адценняў
над салёнай, як слёзы, вадою.

Бесклапотна, звычайна і проста
растваруся ў касмічнай прасторы.
А мае бессмяротныя цені
ў свет пакрочаць таропкай хадою…

**КРЫМСКІ БЕРАГ**
ТРЫПЦІХ

**I.**
Ватна-белыя аблокі
растварыліся ў блакіце.
Сонца — вогненнае вока —
затрымапася ў зеніце.

Бераг ліжуць хвалі мора,
хоць зусім ён не салодкі.
Неабсяжная прастора
паглынае яхты, лодкі.

Свет — у сонечных карунках…
Пад праменнем без панамкі
будаваць пачну я ў думках
зноў паветраныя замкі.

**II.**
Сонца плавіцца. Ад спёкі
разгарачаны пясок.
Тоне ў марыве далёкім
гарызонту паясок.

Безупынна і няўмольна
па-над морам вее брыз.
Гэта вецер неадольны

праяўляе свой капрыз.

Мне прырода намалюе
трыпціх кроплямі вады.
У паўдзённы час люблю я
акунацца ў нікуды…

**III.**
Зніклі ў змроку, у пустэчы
светлыя праменні.
Апусціўся цёплы вечар
кошкай на калені.

Сонны бераг ахінае
ноч смугой сваёю
і ваподаць пачынае
небам і зямлёю.

Добра жыць пад Шляхам Млечным,
на сваёй планеце.
Ды, на жаль, нішто не вечна
ў гэтым тлумным свеце…

* * *
Не люблю за тое раніцу,
што яна знішчае ноч,
ноч, якая не вяртаецца.

Не люблю за тое раніцу,
што яна канчае сон,
сон, які не паўтараецца.

Не люблю за тое раніцу,
што яна вяртае сум,

сум, які не забываецца.

* * *

Я лаўлю твой пагляд, што заўважыў мой сум.
Мяне просіш ты зноў усміхнуцца.
Я хацела б забыць надакучлівы тлум
і далёка адсюль апынуцца.

Не, пакуль ты не зведаў маёй глыбіні,
хоць даўно зразумець мяне хочаш.
Не спяшайся, а лепей яшчэ зазірні
ў мае шэра-зялёныя вочы.

* * *

Стаяла ноч. Духмяны водар
заліў бязмежную прастору.
Дажджом акропленыя травы
спявалі калыханку хорам.

З-за хмары хітравата месяц
сачыў за грэшнаю зямлёю.
Я ў першы раз пашкадавала,
што развіталася з табою.

## АЎТАПАРТРЭТ

Мой вобраз — змрок пад вэлюмам маркоты.
Паводзіны — сугучна новай ролі,
а шчырасць — у люстэрку адзіноты,
і толькі там жыве карэнне волі.

Сумненні безліч ісцін пахіснулі,
і формы растварыліся ў прасторы.

Паветраныя замкі патанулі,
нібы міраж, у рэчаісным моры.

Ідэі — паліва для ззяння зоркі.
Экстравагантнасць — існасці адбітак.
Я п'ю жыццё, як быццам воцат горкі,
і свет душы — адзіны мой набытак.

Афелія, Мінерва, Неферціці,
Сібіла, Муза, Чорная Паненка...
З усіх асоб адзіную стварыце —
і ўзнікну я — Ірына Хадарэнка.

* * *

Ты не ваб мяне, не спакушай,
бо аб гэтым потым пашкадуеш.
Да таго дайсці не прымушай,
ад чаго так проста не ўратуеш.

Як жа побач мне з табой прайсці
і ў бяздонне пачуцця не ўпасці?
Як жа пастарацца абысці
небяспечны вір шалёнай страсці?

Не спрабуй агеньчык запаліць —
можа ўспыхнуць полымя раптоўна.
І тады, відаць, у ім згарыць
стрыманасць, халоднасць і тактоўнасць.

## СПАКУСА

Я хацела б стаць тваёй Лалітай,
у палон жадання залучыць

розум твой, а сэрца апаліць
страсцю неабсяжна-прагавітай.

Гэтак яблык, спеласцю наліты,
над зямлёй спакусліва вісіць...
Нездарма душа мая трымціць,
там — Эрата з Эрасам спавіты.

І не асуджаецца сумленнем
шэраг непрытоеных памкненняў.

Ты пакуль прыхільнік раўнавагі.
Толькі ведай, што надыдзе час,
і замест хаподнае развагі
хваля пачуцця накрые нас...

## МІЛЭДЗІ

*с. п.*

Яна — фатальная жанчына
і небяспечная гульня.
Зрачэшся маці і айчыны,
спыніўшы перад ёй каня.

Зноў тоне розум у сутонні.
Віно, пасьянс, парфумны пах...
Ляціць у чорнае прадонне
паранены каханнем птах.

«Хутчэй спыніся, рыцар любы! —
крычыць нябачны вартавы. —
Іначай давядзе да згубы
пагляд мілэдзі ракавы».

Але той покліч не пачуты.
Трагічным мусіць быць фінал,
бо ад смарагдавай атруты
канае шэры кардынал...

* * *

У попелператворыцца папера,
сусвет надзей пакрыецца смутой,
а кволая, скалечаная вера
загіне пад бязлітаснай тугой.

У памяці маёй яскравай стужкай
праскочаць незнарок былыя дні,
і я згаджуся стаць тваёю служкай
у дзіўны час паўночнай цішыні...

## Я І ТЫ

Я плескалася ў моры дэкадансу
і слотай высцілала берагі.
А ты спяваў пад вокнамі рамансы
і таньчыў па-над прорвай ад туг.

Агонь з вадою маюць падабенства.
З прасторай назаўжды з'яднаны час.
Сусветам авалодала шаленства
і сімвалам сваім зрабіла нас.

Калі ж згарэла зорка залатая,
нанова з д'яблам пасварыўся Бог.
І зараз я над безданню спяваю,
а ты з марской вады гатуеш грог.

## МАДОНА З НЯБЫТУ

*Мастаку А. КУЗЬМІЧУ*

У нябеснай жанчыны блакітная кроў
і з валокнаў сінечы сатканае сэрца.
Яна любіць гуляць па руінах муроў
і чакаць, покуль грэх з пакараннем сальецца.

Яе першым каханым быў прывід-вар'ят,
што пакінуў сляды пацапункаў на вуснах.
А прызначаным лёсам стаў баль-маскарад,
залучыўшы мадонну ў палон свой спакусны.

І багіня, і служка ў абліччы адным
у пакутах мелодыю свету стварае.
Голас Вечнасці ціха спявае аб тым,
што яе таямнічасць зусім не зямная.

## ПРЫСУД

Ля шырокай сцяны, дзе мяне расстрапяюць,
я не плачу, хаця і нясцерпны мой боль.
Толькі думкі свядомасць маю запаўняюць
ды пакутліва цісне нябесная столь.

Расстраляюць мяне не з ружжа, не з вінтоўкі,
а маўклівай пагардай знаёмых вачэй.
Будуць кпліва ўсміхацца былыя сяброўкі,
рыхтавацца да новых расстрэлаў хутчэй.

У абсурдным жыцці я памылку зрабіла
і цяпер непазбежна павінна чакаць
тую кулю, што покуль мяне не забіла,
але ўжо мае сэрца імкнецца спаткаць.

* * *

Твой смех падобны да вострае брытвы.
Ён рэжа мяне, калі чую яго.
Але я не буду прыгадваць малітвы,
каб абараніцца ад смеху твайго.

Магчыма, ты сам не зусім адчуваеш,"
што робіць са мной гэты д'ябальскі смех.
Мяне ты нібы да спакусы схіляеш,
мяне з непрыкметнасцю ўводзіш у грэх.

* * *

Не давярайце той істоце,
якую клічуць Чалавекам,
бо за давер і шчырасць можа
ён вам аддзячыць жорсткім здзекам.

Мяне прымалі за вар'ятку,
калі быць шчырай спрабавала.
Што ж, ад людскога асяроддзя
я іншага і не чакала.

Усмешка прамільгне на твары,
а ў сэрцы — роспач і сумненне.
І вось я думаю, ці трэба
чакаць мне нейкага змянення?

## ПЕСНЯ МЕНЕСТРЭЛЯЎ

На папялішчы кахання
знікнуць былыя мары,
толькі гучыць у сэрцы
сумны напеў гітары.

Плачуць бясслёзна вочы,
твар — як загіпсаваны.
І паступова ўпадае
розум у стан нірваны.

Рэшткі забітых пачуццяў
блытаюцца ў павуціне.
Хуткая смерць кахання —
быццам на гільяціне.

Гэта няцяжка прадбачыць.
Так я но ўсё і будзе.
Каханне знікае ў пакутах…
Навошта ж яно вам, людзі?

* * *
Заснуць ад водару магнолій
на фоне квецені садоў
і больш не аднавіць ніколі
стракатасць маладых гадоў.

Не смерці прагнучы, а волі,
вярнуць сабе апошні доўг,
каб не з тугой, а з весялосцю
пайсці ў нябыт па хісткім мосце…

* * *
*д.*
У нас з табою розныя шляхі.
Навошта ж ты імкнешся разгадаць
характар мой, і ўсе мае грахі
настойліва старается пазнаць?

Дзеля таго ты хочаш зразумець

і да канца раскрыць усю мяне,
яшчэ ад ну каб перамогу мецць
цяпер на сваім ліку. Так ці не?

Альбо ты любіш проста так капаць
маю душу, каб нешта ў ёй знайсці,
і вопыт гэткім чынам набіраць,
нарэшце каб да сутнасці дайсці?

Расце ў маёй душы цярновы куст,
і кветку хочаш ты з яго сарваць.
Што ж, у цябе зусім някепскі густ.
Спрабуй, табе не буду замінаць.

Ды толькі, не скрывавіўшы рукі,
набыць яе не дазвапяю я.
Навошта шлях пакутніцкі такі?
Ты ж не напежыш мне, я — не твая...

* * *

*З. к.*

Светлыя вочы мае —
марыва даўкіх нябёс,
мроі самотных вятроў,
соль нерастрачаных слёз.

Цёмныя вочы твае —
моц і трываласць зямлі,
магія казачных сноў,
цёплай пяшчоты разліў.

Свет я ствару з цемнаты;
ценем святла станеш ты.

## РЭХА СЕРЭНАДЫ

Пад пурпурны тонкі вэлюм ноч схавала твар.
Апельсінавая поўня спее спакваля,
і аб ёй скуголіць сумны і стары ліхтар.

Ап'янелая ад стомы, ціха спіць зямля.
Спяць і птушкі, і расліны, і народы хмар,
і дзяўчына, што разбіла сэрца карапя.

Толькі чэзне ад бяссоння малады ўладар,
хоча ўзняцца ён на крылах мроі-матыля
і нанова акунуцца ў чарадзейскі вар.

* * *

Насуперак усім вятрам
мы ўпарта выпрастаем крылы
і папяцім скрозь горкі дым
з драконам папка-маладым
у край, дзе злыя кракадзілы
ўчыняюць баль вялікіх драм.
Мы спалім лес замкнёных брам,
каб дыхаць водарам настылым
і сыпаць смехам залатым.
А смех той хлопчыкам малым
міжволі дойдзе да магілы,
шукаючы дарогі ў храм.

## АНАРХІЧНЫЯ АЛЕГОРЫІ

Агонія агністай акварэлі
адчайна апраменьвала аблокі.

Асуджаны аслепнуць ад апёку,
анёл атрутай абліваў арэлі.

Аблада адчуванняў ачмурэлых
ахутвала аскетаў адзінокіх.

Азмрочыўшы аблічча абапонкі,
абстрактныя абрысы абгарэлі.

## ЛЕТУЦЕННІ МАТАДОРА

*Сяргею ЖУРАЎЛЮ -*
*з павагай да таланту*

Ператварыцца ў індыкатар,
стаць фільтрам часу і падзей,
лавіць свядомасцю імгненні,
як сетка ловіць матылькоў,
для размнажэння скразнякоў
пасеяць россыпам сумненні
на глебе векавых надзей
і слухаць спевы праз лакатар...
Падобных рэчаў я аматар.
Мой дух — вандроўны чарадзей,
які не стане на калені
перад натоўпам крыжакоў.
Няхай яны п'юць малако
і ў белым саване малення
цягаюць вілы па вадзе,

свой розум кінуўшы за краты.
А я між тым палезу ў кратар
на злосць хлусьлівай чарадзе,
каб сыпаць атамы праменняў
на сонных праведных быкоў.

## КРОПЛЯ НАСТРОЮ

Сонцам спаленыя свечкі
расцякліся недарэчы.
Цераз роспачы парэнчы
перагнуўся гэты вечар.

Боль святы і невылечны —
у душы няспынна енчыць.
Ад расстання да сустрэчы —
толькі момант, толькі вечнасць...

## СЮР-НАСТАЛЬГІЯ

Бледны саван, сатканы для згубнага шлюбу з туману,
душыць енкі аб волі і рэшткі пасечанай веры.
У прасторы лунаюць сляпыя вяшчапьнікі цноты,
і світанне крывавы арнамент на ўбранні выводзіць.

З цягам часу ўспаміны раздробяцца рубам падману,
спадзяванні загінуць у бітве з уяўнай хімерай,
а нявеста, якая пазычыла срэбра ў самоты,
сваю долю ў пакутах пад горкаю зоркай народзіць.

## АПОШНЯЯ СКРЫЖАЛЬ

Д'ябальскі тузін
склаўся з пялёсткаў
дзікіх цюльпанаў,
кімсьці сарваных
хціва і жорстка
летам на лузе.
Стомленай Музе
статак анёльскі
служыць старанна:
слоў вершаваных
доўгую лёску
звязвае ў вузел.

## ЧОРНАЯ РУЖА

*За чорнаю ружаю ідзі ўсцяж дарог,*
*Ідзі праз хлусню, цямноцце і дым, —*
*Каб неяк убачыць блакітны стог*
*І месяц зялёны ў тумане над ім...*
*Ул. КАРАТКЕВІЧ*

Калі маўклівая поўня зіркацела
і тым святлом прастору апякала
так, быццам запаліць яе хацела, —
тады і ружа тая расцвітала.

Не белай, не чырвонаю, а чорнай
закрасавала ружа прыгажосцю.
І ад загадкі гэтай непаўторнай,
відаць, было ў ёй жудаснае штосьці.

Яе зрабілі сімвалам маркоты,
хоць і не бачылі, як слёзы пралівала.

З ёй сустракацца не было ахвоты,
бо не смяялася яна, а сумавала.

...Сарвалі ружу чорную аднойчы.
Яна завяла, высахла паволі,
ды толькі засталіся сум і горыч
сярод людзей. Не знішчыць іх ніколі.

* * *

Я стану тою зоркаю,
што ўспыхвае раптоўна
і фальш атрутай горкаю
знішчае паслядоўна.
Ці мо калючай ружаю,
што зацвітае ў багне
і ўпарта з сілай мужнаю
свабоды вечна прагне.
Альбо слязой празрыстаю,
што поўніцца адчаем
і за журбой імглістаю
жыцця не прыкмячае...

Я маю здольнасць гэткую:
змяняць сваё аблічча.
Адкрытая й таемная
душа кагосьці кліча.

## СУЗІРАННЕ
Трыпціх

### I.
З мройнага келіха злой рэчаіснасці
я выпіваю атруту спазнання.

Розум імкнецца дабрацца да існасці
шляхам аналізу і сузірання.

Дні пралятаюць агнямі стракатымі.
Іх аднавіць не змагу я ніколі.
Лёс абмяжоўвае дзеянні кратамі,
супрацьстаіць аваладанню воляй.

Воля, канешне, — паняцце адноснае.
Тут абсалютаў ніякіх не будзе.
Толькі ламкненне да волі — не ўскоснае;
нават рэапьнасць яго не астудзіць.

Нельга заўжды заставацца на росстанях,
рухацца трэба скрозь час і прастору.
Сцежкі да ісціны будуць няпростымі.
Так павялося ў жыцці a priori[3].

Час так няўмольна і жорстка адлічвае
дні і гады, што ў нябыт адыходзяць.
Моўчкі ўстаюць яны срэбнымі лічбамі
і запаўняюць свядомасці роўнядзь.

Доўга блукаючы з памяццю-кошыкам
праз чараду розных з'яў і здарэнняў,
знойдзеш адказ на прадмет сваіх пошукаў:
жыць трэба ў вечным імпэце стварэння.

**II.**
Жыццё, як быццам трапяткая ніць,
з клубка Сусвету цягнецца спрадвеку…
Як дорага прыходзіцца плаціць

[3] Незалежна ад вопыту, спрадвечна (лац.).

за права называцца Чалавекам!

Ніколі той не скончыцца клубок,
і залатая нітка не парвецца.
Чаму ж тады амаль што кожны крок
без мук і болю людзям не даецца?..

Той, хто блукае між высокіх гор,
у пашчу-бездань рызыкуе ўпасці.
Але ж вярэдзіць сэрца злы дакор
за недасяжнае, як сонца, шчасце.

А што ёсць шчасце? Прывідны міраж,
нядоўгі час выдатнага настрою.
Але чакай: прымусіць антураж
цябе ўжо хутка ўзяцца зноў за зброю.

Вялікай змрочнай хваляй наляцяць
бязладныя і хіжыя нягоды
і будуць безупынна падаўляць
здзяйсненне мар і творчую свабоду.

Аднак жыццё — не пустка і не гаць.
Яно бяжыць іскрынкай па спружыне…
Імкніся ж, чалавек, асобай стаць
і след пакінуць на сваёй сцяжыне!

**III**

Вір жыццёвы бясконца кіпіць,
як гарачая магма ў вулкане.
І ніхто з нас не ў стане спыніць
гэты вечны закон існавання.

У касмічным харале пяе

сваю партыю наша планета.
А ці ёсць у трымценні яе
хоць якаясьці пэўная мэта?..

Ёсць працэсы і з'явы, якім
немагчыма знайсці тлумачэння.
На Зямлі кожны з нас — пілігрым,
што шукае сваё прызначэнне...

Расчыняючы дзверы ў нябыт,
на свой шлях яшчэ раз азірніся,
кінь пагляд на жыцця краявід
і з усмешкай на момант спыніся.

Не спяшайся скакаць праз масток,
што схаваўся за тым небакраем.
Пі працягла апошні глыток...
Ну, а Вечнасць? Яна пачакае.

## З ВЯНКА САНЕТАЎ «ЛАБІРЫНТЫ ДУШЫ»

*** * ***

Куды пайсці? Стаю на раздарожжы,
на тонкім, хісткім мосціку стаю.
Хачу я адпусціць душу сваю.
Няхай сабе ляціць у падарожжа!

Яна сустрэне шчасце там, быць можа,
альбо загіне. Лёсу аддаю
яе. Заўчасна рэквіем пяю.
Ты гэты цяжкі грэх даруй мне, Божа...

Але… маю малітву не пачуеш.
Бяссэнсна… Мне нічога не даруеш,

бо ты — міраж, і не табе судзіць
блукаючую прыцемкам дзяўчынку.
Я нарабіла шмат благіх учынкаў,
і страчанага больш не аднавіць.

* * *

Губляю часам я жаданне жыць.
Такое ці не ў кожнага бывае,
калі душа няўмольна адчувае,
што іншым чынам лёс свой не змяніць.

Хацела б я дашчэнту спапяліць
усё, што мне маркоту навявае,
і тых, хто мне лісліва спачувае,
і тое, з-за чаго магу схлусіць.

Але цярплю. Прыходзіцца трымацца,
на паратунак нейкі спадзявацца.
А свет людзей настроены варожа.
Я рызыкую стаць такой сама.

Нікому справы да мяне няма.
Пачну тануць — ніхто не дапаможа.

* * *

Свае памылкі перастаць лічыць,
адкінуць прэч атрутную маркоту,
напоўніць нейкім сэнсам адзіноту
і толькі аб шчаслівым варажыць…

Ці здолею? Перада мной ляжыць

цярністы шлях, дзе я пакіну цноту,
прайшоўшы праз цямноцце, бруд і слоту.
Узвышанасці браму адчыніць

і ў творчасці знайсці сябе складана.
Пачнеш ты ісціне служыць аддана,

пачнеш шукаць яе ва ўсім заложна...
След вынікаў чытаецца ў вачах —
няўпэўненасць, сумненні, боль і жах.
Яны бясконца мне душу трывожаць.

* * *
«Хай смутак не марнуе сэрца болей!» —
падняўшы гэты тост, я п'ю віно.
Здаецца, што патраплю я на дно,
калі жаданні ўсе змагу спатоліць.

Душа мая знясілела ад болю,
а выйсце, пэўна, як заўжды, адно.
Адзінае, і тое не відно.
«Дэпрэсія — ад несвабоды волі», —
так сведчыў Ніцшэ. Што ж, я разумею.
Галоўнае, каб не згубіць надзею.

Пакутаў я ўжо зведала даволі.
Якіх? Аб гэтым лепей памаўчу.
З маркотай развітацца я хачу,
ды, мусіць, не бываць таму ніколі.

* * *
Чаму я нарадзілася такою?
Хачу я ў свеце ўсё спазнаць хутчэй.
Сябе шукаю... Мо было б лягчэй

быць простаю дзяўчынкай гарадскою?

Не Афрадытай — пенаю марскою, —
русалкай буду ў цішыні начэй.
Зеленаватым колерам вачэй
душу камусьці ахіну смугою.

Гатовы нехта ўжо мяне праклясці...
Я прадчуваю, што свой шлях праклaсці

і за ўвесь час не трапіць у дрыгву
зусім няпроста, бо не любяць людзі
аднаасобнікаў. Што ж, будзь што будзе!
Цячэ жыццё — і я па ім плыву.

*Менск*